# ЦВІЦІ БЕЛЬШЧЫНА!

16 год — гэта невялікі перыяд у гісторыі народа і краіны. Але які ж ён быў багаты ў перамены ў Бельскім павеце.

За панавання капіталістаў і абшарнікаў на Бельшчыне не было электрыфікавана і радыёфікавана ані адна вёска.

Зараз у 70 вёсках гарыць электрычнае святло, а ў звыш 120 вёсках грае радыёкропкі. Апрача таго многія сяляне карыстаюцца радыёпрыёмнікамі.

За санацыйнай Польшчы нават у маёнтках не працавалі на палях трактары. Цяпер многія сельгасгурткі маюць уласныя трактары з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын. Колькасць гэтых камплетаў ужо дасягнула 20. Безумоўна, іх будзе хутка больш, бо кожны з 95 сельгасгурткоў на Бельшчыне імкнецца механізаваць апрацоўку зямлі.

У многіх вёсках цяжка карыстацца сельскагаспадарчымі машынамі таму, што там да гэтага часу існуе шахаўніца. Але ўсякіх вёсак з кожным годам менш. У 6 вёсках за народнай улады праведзена камасацыя.

Паляпшэнне матэрыяльных умоў сялян значна залежыць ад развіцця жывёлагадоўлі. А ўсім відома, што развіццё жывёлагадоўлі, у сваю чаргу, залежыць ад кармавой базы, а кармавая база перш за ўсё ад правядзення меліярацыі сенажацяў.

На Бельшчыне за народнай улады змеліяравана 8750 га сенажацяў. За гэтую пяцігодку запланавана правесці меліярацыю далейшых 3500 га сенажацяў. Гэта значна павысіць дабрабыт сялян.

Прыемна адзначыць, што матэрыяльныя ўмовы гаспадароў з кожным годам паляпшаюцца. Да 1939 года не многа было ў вёсках веласіпедаў. Зараз веласіпед мае амаль кожны гаспадар. У многіх хатах нават па некалькі веласіпедаў. Але веласіпеды на Бельшчыне аджываюць ужо свой век. Цяпер людзі больш зацікаўлены матацыкламі, якіх колькасць з кожным годам павялічваецца. І так, у 1954 годзе было ў павеце 30 матацыклаў і адна легкавая машына. Зараз матацыклаў 1772, легкавых машын 23. За панскай Польшчы было ў павеце толькі некалькі матацыклаў, якімі карысталіся самыя багатыя людзі.

За народнай улады вельмі далёка шагнула ўперад асвета. Зараз у Бельскім павеце існуе 74 сямікласных школ. Да вайны ў Бельскім павеце былі толькі 4 сямікласныя школы. Вялікай рэдкасцю бы-

(Працяг на стар. 4)



І зімою дрэвы надаюць прывабнасць гарадскому пейзажу. Доказам гэтага наш здымак.
На другім плане тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку.
фота: Генрык Рагазінскі


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (259) | ГОД VI | БЕЛАСТОК, 12 ЛЮТАГА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## Культурна — асветную працу трэба разумець усебакова

Беларускі мастацкі самадзейны рух на Беласточчыне за апошнія гады набыў шырокага размаху. У нашых вёсках і мястэчках сталі ўжо агульна папулярнымі творы беларускай класічнай драматургіі Янкі Купалы, Кандрата Крапівы ці Дуніна - Марцінкевіча. Вядомыя таксама творы іншых беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці, творы Міколы Алтухова, Уладзіміра Ніфёда і інш.

Найчасцей успрыйманай формай у мастацкай самадзейнасці з'яўляюцца драматычныя гурткі. Усюды арганізуюцца драматычныя гурткі — і найчасцей у прыдатак да іх нейкі дуэт, трыё або нават і невялічкі харавы калектыў. Танцавальныя гурткі з'яўляюцца наогул рэдкасцю па прычыне адсутнасці ў галіне танца адпаведных інструктарскіх кадраў.

Актыўнасць беларускага мастацкага самадзейнага руху вялікая. Напрыклад, мастацкія гурткі, якія прымалі ўдзел у цэнтральным аглядзе 27 лістапада ў Беластоку далі на працягу года агулам 73 выступленні ў сваіх аколіцах. Гэта гурткі з Пянькоў і Гарадка (Беластоцкі павет), Ільяшукоў і Кляшчэль (Гайнаўскі павет) і мастацкі гурток са Шчытоў у Бельскім павеце. У сучасны момант налічваецца каля 70 актыўных мастацкіх аматарскіх гурткоў. Статыстычныя даныя за 1960 год паказваюць, што кожны з тых гурткоў даў за год, у сярэднім, па 6 выступленняў. Значыць, на працягу 1960 года беларускія мастацкія гурткі далі насельніцтву каля 420 выступленняў - пастановак і канцэртаў!

(Працяг на стар. 3)

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

### У КОЖНАЙ ВЕСЦЫ НОВЫ СКЛЕП

**— Што ў новым годзе чуваць у гайнаўскім гандлі, — запыталі мы ў старшыні ПЗГС — Кастуся Майсені.**

— Пачнем будавацца, — адказаў старшыня. — Памяшкальныя ўмовы нашага гандлю ў вёсцы зусім прымітыўныя і, магчыма, найбольш занядбаныя на Беласточчыне. Вясковыя склепы паасобных ГС размяшчаюцца неадпаведных ў старых, спарахнелых ды зусім цесных сялянскіх хатах. У такіх умовах цяжка



вымагаць эстэтыкі гандлю, або адпаведнага размяшчэння тавараў. Дык вось. выраршылі мы ў гэтым годзе распачаць пабудову зусім новых будынкаў са спецыяльным прызначэннем да гандлю. Нашы намеры, каб на працягу некалькі бліжэйшых год у кожнай вёсцы Гайнаўскага павета быў такі новы склеп.

**— Якія ж ёсць магчымасці рэалізацыі гэтага, не малога, мерапрыемства.**

— Магчымасці, у асноўным, залежаць ад самых сялян, ад іхняй добрай ахвоты і дапамогі.

(Працяг на стар. 5)

## ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОНЬ У ПРОДАЖУ

Выйшаў з друку зборнік фельетонаў нашага сталага супрацоўніка Дзядзькі Леваня. Кніжка прыгожа аформлена і налічвае 160 старонак. Цана 10 зл. Апрача найлепшых фельетонаў нашага Дзядзькі, у ёй знойдуць чытачы і арыгінальны здымак аўтара, які дагэтуль ніколі яшчэ не здрадзіў свайго вонкавага выгляду. Фельетоны Дзядзькі прынясуць чытачу вялікую прыемнасць і таму раім як найхутчэй набыць гэтую незгладзённую кніжку. «Дзядзька Леваня» набыць можна ў кнігарнях «Дому кСёнжкі», а таксама ў аддзелах БГКТ. Можна таксама выпісаць. Падаем адрас высылковай кнігарні:

„Dom Książki", Księgarnia Wydawnictw Importowanych, Białystok, ul. Kilińskiego 10.



Вясковая хата, абваколеная дрэвамі, уяўляе сабою і зімою чароўны малюнак.
Здымак са Збуча (Гайнаўскі павет).
фота: Генрык Рагазінскі

### У святліцы Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку



За партыяй шахматаў.

фота — Г. Рагазінскі

## З настаўніцкай нівы

# А дзе праграма...?

Гэты загаловак з'яўляецца проста запытаннем многіх выкладчыкаў беларускай мовы ў пачатковых школах. Зразумела, што без належнай праграмы цяжка выкладаць кожны прадмет, у тым ліку і беларускую мову. Але ці сапраўды настаўнікі поўнасцю пазбаўлены компаса, якім, несумненна, з'яўляецца праграма?

Міністэрствам асветы была апрацавана і выдадзена ў форме брашуры праграмная інструкцыя для выкладання ў пачатковых школах беларускай мовы як прадмета. Ёю мелі карыстацца і карысталіся таксама выкладчыкі беларускай мовы. У сувязі з малым тыражом праграмнай інструкцыі Куратарыум Беластоцкай школьнай акругі перавыдала яе адбіткай на шапірографе ў ліку 200 экземпляраў і вырашана было, што пры дапамозе інспектаратаў асветы гэтая праграмная інструкцыя будзе пераслана да ўсіх школ, дзе выкладаецца беларуская мова. Іншая справа, што некаторыя школы не атрымалі нават гэтай праграмнай інструкцыі.

Хочам падаць настаўнікам прыемную вестку. Як мы даведаліся ў Куратарыуме ў Беластоку, у сакавіку г. г. будзем мець ужо новую праграму па беларускай мове для абодвух тыпаў школ.

**М. Кураш**

# КАРЫСНЫ КУРС

Таксама як і ў мінулым навучальным годзе, так і ў бягучым годзе Куратарыум Беластоцкай школьнай акругі арганізавала курс для выкладчыкаў беларускай мовы пачатковых школ. Адбыўся ён у Бельску Падляшскім у час зімовых канікулаў і працягваўся 7 дзён. У курсе ўдзельнічала 35 асоб. Выкладчыкам літаратуры быў Сямён Раманчук, а граматыкі — Люба Філіпік. Вельмі спадабаліся настаўнікам лекцыі па методыцы навучання ў спалучаных класах па беларускай мове вопытнага настаўніка Міколы Лебядзінскага.

Як сцвярджаюць настаўнікі, курс быў вельмі карысным з увагі на добрую арганізацыю і абеспячэнне яго добрымі выкладчыкамі. Яны выражаюць глыбокую ўдзячнасць Куратарыуму Беластоцкай школьнай акругі.

**(МК)**

# Настаўнікі за свецкае выхаванне

У канцы студзеня г. г. у Падазеранах, Беластоцкага павета, адбылася акруговая канферэнцыя настаўнікаў. У канферэнцыі прынялі ўдзел I-шы сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку — Аляксандр Камінскі, прадстаўнік ГП БГКТ — Люба Філіпік, прадстаўнікі інспектарата асветы і настаўнікі дзесяці пачатковых школ. Тэма канферэнцыі — свецкае выхаванне.

Пасля даклада на тэму «Польскія традыцыі барацьбы за свецкае навучанне і выхаванне», які прачытаў кіраўнік пачатковай школы ў Цясоўцы Расціслаў Налівайка, большасць настаўнікаў выказвалася, што са свецкім выхаваннем трэба выйсці шырэй, за рамкі школы.

— Дзеля гэтай мэты, — гаварыў настаўнік Трахімчук, — нам неабходна арганізаваць гурток Таварыства свецкай школы, навязаць цеснае супрацоўніцтва з павятовым праўленнем ТСШ, і, выкарыстоўваючы матэрыялы на тэму свецкага выхавання, распачаць канкрэтную ўсведамляючую працу сярод пазашкольнага асяроддзя. Такім чынам, уздзейнічаючы на свядомасць бацькоў, лепш трапім са свецкім выхаваннем да вучняў.

У заключэнні канферэнцыі настаўнікі арганізавалі гурток ТСШ, да якога прыступіла 33 асобы. Пасля канферэнцыі настаўнікі арганізавалі супольны абед і вечарынку, на якой да позніх гадзін чуліся беларускія і польскія песні, кружыліся пары.

**(вб)**

# І не толькі куток этнографа

Заклік «Нівы» да чытачоў, каб збіралі і дасылалі этнаграфічны матэрыял у рэдакцыю дзеля яго публікацыі трэба лічыць вельмі карысным пачынаннем. Гэты заклік слушны, і даўно ўжо ўзнікла патрэба, каб яго зрабіць. Першая і другая сусветныя войны знішчылі велізарную колькасць этнаграфічных цэннасцей, а тое што ўцалела адступае пад націскам прагрэсу і культуры. Таму мы — чытачы свайго штотыднёвіка — павінны глыбока ўспрыняць заклік «Этнаграфічнага кутка», які не павінен быць для нас абыякавы. Наша зямля надзвычай багата легендамі, якіх вытокі знаходзяцца недзе ў глыбіні вякоў. Многія курганы, гаі, крыніцы, старыя могілкі ці векавыя дрэвы на Беласточчыне авеяны народнымі апавяданнямі і сказамі. У іх можам знайсці невычэрпнае багацце мудрасці, мастацкасці і здзіўляючай фантазіі нашых продкаў, якім мы бязмежна ўдзячны за іх каштоўную вусную спадчыну. І таму нашым святым абавязкам з'яўляецца збіранне і клапатлівае ахоўванне ўсіх гэтых каштоўнасцей, якія з уміраннем іх носьбітаў — старых людзей — беспаваротна гінуць. Агульнымі намаганнямі нашага грамадства трэба ўдзяліць шмат часу ратаванню этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў пакуль яшчэ не запозна. А трэба быць упэўненым, што будучыня належным чынам ацэніць наш уклад у гэтую высакародную справу.

Кожны, хто вядзе запіс вуснай творчасці павінен вельмі сумленна ўсё натаваць, не мае права нічога ад сябе дадаваць, дапаўняць. Усе назвы, выступаючыя, напрыклад, у легендзе ці песні павінны быць запісаны правільна, без нейкіх словазмяненняў. Гэта тым больш важна, што зараз новая рэчаіснасць уплывае на змяненне назваў рэк, вёсак, узгоркаў, крыніц, ручайкоў, якія ў народнай памяці захавалі сваю назву (часта стараславянскую), звязаную з нейкай падзеяй, з гістарычным мінулым. Прыгадаем дзеля прыкладу наступную з'яву. Першы мацнейшы ўдар урочышчам, вакол якіх з цягам вякоў народ склаў шмат цікавых апавяданняў, быў нанесены ў другой палове XIX стагоддзя, у час скасавання прыгонніцтва. Тады, у выніку аграрнай рэформы сяляне атрымалі зямельныя надзелы ў выглядзе т. зв. трохпалёўкі, якія захаваліся яшчэ ў паасобных месцах да сённяшняга дня. Справа, аднак, у тым, што ў часе рэформы многія старыя прыгожыя назвы замяняліся, спрошчваліся новымі назвамі (гэта датычыла таксама ўрочышчаў); напрыклад, узніклі такія, як Загумене, Задвор'е, Падлесны, Падрэчны і г. д. Аднак шмат назваў колішніх урочышчаў датрымалася да сучаснасці. У аколіцы, напрыклад, Малынкі (Беластоцкі павет), дзе я жыву, можам яшчэ сёння сустрэцца з назвамі Ягоднэ, Дудова Горка, Касмынка і шмат іншых, якія праглынула хутарная сістэма, уведзена ў нас у недалёкім мінулым уладай панскай Польшчы. Адвечныя назвы ўрочышчаў замяніліся новымі, крыніцай якіх былі прозвішчы ўласнікаў хутароў, пабудаваных на гэтым месцы.

Задачай нашага пакалення з'яўляецца дбайнае вывучэнне мінулага роднай зямлі на аснове не толькі этнаграфічных, але і фальклорных матэрыялаў. Зразумела, што гэта толькі пад сілу знаўцам, вучоным ды наогул спецыялістам у гэтай галіне. Аднак кожны з нас можа і павінен пацікавіцца матэрыялам, якога шмат навокал нас.

Нашыя бабкі і дзяды ведаюць шмат цікавага. Хай жа тады дачка, сын ці ўнукі зацікавяцца легендамі і песнямі старога пакалення, уважліва запішуць іх і дашлюць у «Ніву». А пасля гэты матэрыял будзе ўжо крыніцай сур'ёзнага вывучэння спецыялістамі. Таму не толькі куток этнографа павінен прыцягваць нашую вялікую ўвагу. Разумнае і любоўнае стаўленне да вуснапаэтычнай творчасці нашых продкаў — гэта абавязак нас усіх, якім дарагая родная гісторыя.

**Міхась КРАСОЎСКІ**
Малынка



Хата ў Шчытах (Бельскі павет).

фота — Г. Рагазінскі

# У кожнай вёсцы новы склеп

(Працяг са стар. 1)

Новыя склепы, у першую чаргу, будуць будавацца там, дзе насельніцтва грамадскім чынам падымецца выканаць прынамсі 1/3 частку коштаў пабудовы; 2/3 часткі коштаў інвестыцый будзе фінансаваць ПЗГС.

**— Ці ёсць такія вёскі, у якіх сяляне выказваюць ахвоту дапамагчы ПЗГС?**

— Ёсць. Сходы на гэтыя тэмы праводзіліся ў вёсках Старое Ляўкова, Семяноўка, Дубічы Царкоўныя і ў другіх. Сяляне ахвотна падтрымоўваюць ініцыятыву ПЗГС. Варта падкрэсліць, што ў гэтай справе шмат клопатаў праяўляюць кіраўнікі Нараўскай ГС і асабліва Пятро Савіцкі, Мікола Зубрыцкі і Кастусь Кабаць. Яны часта бываюць у паасобных вёсках, гутараць з людзьмі.

**— Дзе прадбачваецца распачаць будову новых склепаў у гэтым годзе?**

— Плануем распачаць і закончыць будову ў трох вёсках Гайнаўскага, Нараўскага, Нарвенскага, Кляшчэляўскага ГС-аў і адзін у Белавежы.

**— Ці апрача пабудовы склепаў прадбачваеце нейкія іншыя інвестыцыі?**

— У бліжэйшых гадах будзем будаваць у Нараўцы: пякарню, мясную, сялянскі гандлёвы дом, разлеўню піва і газіраванай вады.

У Нарве: пякарню, мясную, разлеўню піва і газіраванай вады, сялянскі гандлёвы дом і гасподу.

У Гайнаўцы: пякарню, разлеўню піва і газіраванай вады.

У Кляшчэлях: пякарню, мясную, разлеўню піва і газіраванай вады.

У Белавежы: сялянскі гандлёвы дом і гасподу. Плануем таксама пабудаваць гасподы ў вёсках: Чыжы, Трасцянка, Старое Ляўкова і Кленікі.

Апрача гэтага хочам арганізаваць услуговыя пункты, такія, як выпазычальні сельгасмашын, рамонтная база сельгасмашын і прыладаў у тых мясцовасцях, дзе яны найбольш патрэбны.

**— Ну, што ж, намеры вельмі шырокія. Застаецца толькі пажадаць як найхутчэйшай рэалізацыі ўсіх гэтых патрэбных мерапрыемстваў.**

— Мы са свайго боку, — сказаў у заключэнні нашай гутаркі старшыня ПЗГС, — паложым усе намаганні, каб выканаць іх поўнасцю і асабліва націск паложым на пабудову новых склепаў. Бо калі разыходзіцца аб забеспячэнне склепаў у паасобныя тавары, дык яно ў апошнім перыядзе значна палепшылася. Разыходзіцца толькі аб карэннае паляпшэнне ўмоў нашага вясковага гандлю, аб яго эстэтыку. Пры дапамозе сялян, на якую мы шмат разлічваем, думаю, што і гэтую справу вырашым паспяхова.

Гутарыў **В. Баршчэўскі**

**З жыцця БГКТ у Сямяціцкім павеце**

# НОВЫЯ ГУРТКІ

Нядаўна ў Вычулках утворана гурток БГКТ, які налічвае 11 членаў. Старшынёй праўлення гуртка выбрана Марыся Дэмчук.

25 студзеня г. г. паўсталі гурткі нашага таварыства ў Літвінавічах і Тымянцы.

Гурткоўцы з Тымянкі вырашылі актывізаваць дзейнасць мастацкага калектыва, а таксама задбаць аб наладжанні матаровага і кулінарнага курсаў. У гурток уступіла 22 асобы. Старшынёй выбрана мясцовага настаўніка Мікалая Крыстыянюка.

(СЯ)

*

24 студзеня г. г. у вёсцы Зубачы адбыўся сход, на якім прадстаўнік аддзела БГКТ у Мілейчыцах грам. Мартыновіч расказаў аб дзейнасці Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Сход пастанавіў арганізаваць у вёсцы гурток БГКТ. Уступіла ў гурток 11 членаў. Узначаліў яго настаўнік беларускай мовы Ўладзімір Левоцюк. Сакратаром выбрана Зою Мароз, скарбнікам — Сяргея Мусюк.

**С. Март**
Зубачы

*

24 студзеня ў памяшканні мясцовай пачатковай школы ў Клюковічах адбыўся сход нашай грамадскасці. На сходзе прысутнічаў прадстаўнік ГП БГКТ Сакрат Яновіч. Тут абмяркоўвалася дзейнасць беларускага таварыства ў Польшчы. Многія прысутныя на сходзе выявілі жаданне ўступіць у члены БГКТ. У выніку членскія дэкларацыі падпісала 18 асоб — усе маладыя людзі. Выбрана таксама праўленне гуртка, у склад якога ўвайшлі: Кастусь Кірысюк (старшыня), настаўніца Вера Зіневіч (сакратар), Віктар Давідзюк (скарбнік). У рэвізійную камісію ўвайшлі Міхась Бубель і Аляксандр Грыцюк.

Новы гурток БГКТ вырашыў распачаць сваю дзейнасць ад наладжання маторнага курса і пастаноўкі п'есы.

**К. Савін**
Клюковічы

## Перамены не абмінулі і нашу вёску

Народная ўлада прынясла з сабою значныя зрухі ў жыцці нашых вёсак. Старэйшае пакаленне добра памятае часы санацыі, калі сялянскія дзеці не маглі вучыцца, а павінны былі ісці ў наймы да кулакоў ці ў пастухі. Такія толькі былі перспектывы падрастаючага пакалення.

Зараз для моладзі адкрыты ўсе шляхі. Яна можа авалодваць ведамі, можа здабываць любыя кваліфікацыі, працаваць на розных пасадах, хай нават на самых адказных.. Вось хаця б вёска Гураны (Сакольскі павет). Тут сёння знаходзіцца ГРН, паштовая ўстанова і крама. Электрычнае святло дазваляе культурна і карысна праводзіць лоўгія зімовыя вечары. У вольны ад працы час, вечарам, можна пасядзець над займальнай кнігай, пачытаць цікавы часопіс, штодзённую газету. Прыемна таксама зайсці ў бібліятэку, дзе на паліцах кожнага палоняць хвалюючыя творы нашых аўтараў. Электрычнасць — гэта крыніца шматлікіх дабрадзействаў. Вось, напрыклад, радыёпрыёмнік. Тут і музыка, і цікавыя інфармацыі ці карысныя парады для сялян.

У мінулым годзе ў Гуранах закончылася будова сямікласнай школы, дзе дзеці вывучаюць таксама родную беларускую мову, а часам прыязджае тут і аб'яздное кіно.

Лепшыя ўмовы жыцця, вышэйшая культура на вёсцы, развіццё асветы — усё гэта прыкметы новага жыцця, якое з'явілася ў нас за час Народнай Польшчы.

**Жэня Гламбоцкая**
Грыбоўшчына

„NIWA"

Redaguje Kolegium. Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 tel. centr 37-41 red naczelny i sekretariat 25-89.
Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa".
Warunki prenumeraty w Polsce: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7.20 zł półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł.
Wpłaty kierować na PKO Nr 12-6-1312 w Białymstoku dla PUPiK „Ruch". Na odwrocie należy zaznaczyć na jaki adres dokonano wpłaty i podać tytuł pisma.
Prenumeratę na „Niwę" przyjmują również wszystkie urzędy pocztowe i listonosze w całym kraju. Cena prenumeraty za granicą: kwartalnie — 10.15 zł, półrocznie — 20.30 zł i rocznie — 40.60 zł. Należność za prenumeratę za granicą wpłacać na konto PKO Nr 1-6-100024 PKWZ „Ruch" Warszawa.
Zamówienia na „Niwę" z krajów europejskich jak i zamorskich (z wyjątkiem krajów demokracji ludowej) należy kierować pod adresem CHZ „ARS POLONIA" Warszawa, Krakowskie Przedmieście nr 7. Obowiązuje przedpłata na konto N.B.P. Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi $ 4.16
Nkł. 5.000 Bltk B-2

## Мастацкі гурток — удзельнік конкурса

Мастацкі гурток з вёскі Ляшукі на Гайнаўшчыне прымае ўдзел у конкурсе ГП БГКТ пад назвай — «Найлепшыя беларускія мастацкія гурткі ў грамадскай працы». У рамках гэтага конкурса гурток з Ляшукоў 8 студзеня даў выступленне ў святліцы Ст. Нараўка, на якім пабывала каля 200 асоб. У праграме выступлення — вадэвіль «На ўскраіне сяла» і п'еса «Толькі так». Апрача гэтага дэкламаваліся вершы з беларускага каляндара на 1961 г., а таксама спяваліся народныя песні.

**(ся)**




**Вокладка зборніка фельетонаў Дзядзькі Левана, які гэтымі днямі выйшаў з друку. Аўтар вокладкі Тэрэса Бэйнаровіч - Кавяза.**

## І Ў ВОЙШКАХ МАТАЦЫКЛЫ

25 студзеня г. г. у Войшках (Бельскі павет) закончыўся маторны курс, арганізаваны Ваяводскім аддзелам Таварыства ведзы практычнай. Курс стаяў на вельмі высокім узроўні, аб чым сведчыць дзяржаўны экзамен, які злажылі амаль усе 40 асоб. Варта падкрэсліць, што некаторыя курсанты купілі сабе матацыклы. Зараз у Войшках ёсць ужо 17 матацыклаў. А многія нашы аднавяскоўцы думаюць аб куплі новых машын.

Карыстаючыся аказіяй, хачу ад імя ўсіх удзельнікаў курсу шчыра падзякаваць Таварыству ведзы практычнай, а асабліва яго выкладчыкам, Феліксу Лосю і Канстанціну Сіліванюку, якія палажылі шмат намаганняў, каб курс адбыўся паспяхова.

**Уладзімір Корх**
Войшкі

## ВЫСТАЎКІ

У святліцы ў вёсцы Аўгустова пад Бельскам адкрыта выстаўка «З жыцця БГКТ», якая раней пабывала ў вясковым доме культуры ў Орлі (Бельскі павет).

*

У прасторных калідорах новай школы ў Мілейчыцах (Сямяціцкі пав.) экспануецца выстаўка пад назвай «З жыцця Савецкай Беларусі». Выстаўка выклікала вялікую цікавасць.

**(ся)**




### ПРЫЧЫНАЙ — ГАРЭЛКА

Найчасцей бывае так: муж вяртаецца позна дахаты, гарэлку чуць ад яго на паўкіламетра, а галодныя дзеці плачуць ад страху перад сваім бацькам. Няхай толькі жонка што - небудзь скажа, муж адказвае кулаком або іншымі прыладамі. Дастаецца тады і дзецям. Нашае права лічыць злачынствам гэткія паводзіны мужоў або іншых членаў сям'і. За пабоі жонак і дзяцей у апошнім часе пракуроры загадалі арыштаваць Рыгора Амбражэвіча з Беластока (вул. Кракоўская 8, кв. 3), Мар'яна Вертэля з Беластока (вул. Сенкевіча 5, кв. 73), Антона Мрачкоўскага з Старасельц (вул. Врацлаўская 4) і Ўладзіміра Непраўскага з Гайнаўкі (вул. Пер'ева 10).

### РАЗБОЙНІК ПАД КЛЮЧОМ

Чэслаў Здунак з вёскі Ялоўка ў Дуброўскім павеце каменем скалечыў руку Рамуальдзе Здунак, жыхарцы той жа вёскі. Пракурор у Саколцы загадаў арыштаваць Здунака.

### ВОСЬ ДА ЧАГО ДАВЕЎ САМАГОН

Северыну Ягораву з вёскі Сескі ў Бельскім павеце, Генрыху Машосю з вёскі Генюшы ў Сакольскім павеце і Дар'і Ігнатовіч з вёскі Вераб'і ў Беластоцкім павеце прыйшлося пабываць пад міліцэйскім ключом за прадукцыю і распаўсюджванне самагонкі.

**П. Бяда**

## Абмеркаванне працы прысвечанай »Грамадзе«

На чарговых пасяджэннях дыскусійнага клуба, існуючага пры Варшаўскім аддзеле БГКТ, 20 і 27 студзеня г. г. адбылося абмеркаванне цікавай працы былога дзеяча КПЗБ і «Грамады» Аляксандры Бэргман «З гісторыі нараджэння Беларускай сялянска - рабочай грамады». У абмяркоўцы працы прыняло ўдзел звыш 20 асоб. Цікавая была дыскусія над працай, у якую ўключылася значная колькасць прысутных.

Гэтая каштоўная праца будзе надрукавана ў часопісе «З поля валькі», які выдае аддзел гісторыі партыі ЦК ПАРП.

**В. Ш.**

## Літаратурныя сустрэчы

30 студзеня вёску Крывец на Гайнаўшчыне наведаў наш паэт Віктар Швед з Варшавы. Удзень сустрэўся ён з вучнямі мясцовай школы, якім прачытаў рад сваіх дзіцячых вершаў.

Вечарам адбылася сустрэча паэта з дарослым насельніцтвам вёскі, масава прыбыўшым да будынка прыгожай мясцовай школы.

Віктар Швед меў таксама сустрэчу з вучнямі школы ў Семяноўцы.

**(ся)**

### Канцэрты »Лявонніхі«

У нядзелю, 29 студзеня г. г., беларуская эстрада «Лявоніха» выступіла ў вёсцы Парцава і Орлі на Бельшчыне. На гэтых канцэртах пабывала каля 550 асоб.

**(ся)**

## Вясёлы вечар

28 студзеня г. г. у вёсцы Агароднікі (Бельскі пав.) адбылася вясёлая вечарынка ў хаце Хвядоса Карпюка, на якую прыехалі вучні пачатковай школы ў Пасынках. Яны выканалі рад песень, а таксама паставілі п'есу «На ўскраіне сяла» і «Толькі так». На вечарынцы прысутнічала шмат людзей.

Калі разыходзіцца аб пастаноўку, дык у п'есе «На ўскраіне сяла» найлепш сваю ролю выканаў Хвядос (Яўгень Пракапюк), а ў п'есе «Толькі так» — Юрка (Даніла Анафрэюк).

Дзеці з Агароднік, якія вучацца ў Пасынках, запрасілі сваіх сяброў і сябровак на вечарыну. Пасля яе пачаліся танцы. Усімі культурнымі мерапрыемствамі ў Агародніках «дырыжыраваў» настаўнік пачатковай школы ў Пасынках Янка Суліма.

**Вучні з Агароднік**

## Аб творчасці Міхася Лынькова

Гэтымі днямі Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку надрукавала на шапірографе літаратурны мантаж — «Таленавіты мастак слова» (аб творчасці Міхася Лынькова). Тыраж выдання — 3000 экземпляраў.

Гэты мантаж кальпартуецца бясплатна павятовымі праўленнямі сельгасгурткоў, аддзеламі беларускага таварыства, павятовымі бібліятэкамі і павятовымі праўленнямі ЗМВ.

Аўтарам гэтага выдання з'яўляецца мгр Люба Філіпік.

**(ся)**

## У Дубінах кіпіць культурная работа

Многа зышлося народу ў нядзелю, 29 студзеня, да мясцовай школы ў Дубінах пад Гайнаўкай.

Адбывалася тут сельскагаспадарчая маладзёжная адгаданка «Згадуй - згадуля», наладжаная па ініцыятыве курсантаў са школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі з Навакорніна, Ласінкі і Дубін.

У гэтай «Згадуй - згадулі» першае месца заваяваў Грыша Шварц з Навакорніна, за што атрымаў электрычны прас.

На «Згадуй - згадулі» апрача прадстаўнікоў павятовых улад прысутнічалі таксама прадстаўнікі Беларускага таварыства і ЗМВ.

Вечарам вельмі ўдала выступіў тут беларускі мастацкі гурток з Навакорніна з пастаноўкай п'ес «Боты» і «Суд». У вечарыне прыняў удзел запрошаны ў Дубіны паэт Віктар Швед, які ва ўступным слове да насельніцтва шырока расказаў аб пяцігоддзі беларускага таварыства.

**(ся)**




Зайшоў я да фабрыканта аружжа з цікавым праектам новай бомбы.

— Якая забівальнасць вашага вынаходства? — запытаў фабрыкант.

— Дзесяць мільёнаў людзей, — адказаў я.

Фабрыкант пачмокаў ад задавалення, але аднёеся да мяне абыякава.

— Гм... Лік гэты нічога сабе, — адказаў. Папрацуйце яшчэ над гэтым, малады чалавек. Фабрыкант ведаў, як прамовіць да маёй амбіцыі. Не прайшло шмат часу і я ўжо мог прадставіць яму новы праект.

— Бомба мая знішчае поў мільярда людзей, — далажыў я.

Гэтая вестка зрабіла фабрыканту прыемнасць. Аднак і гэтым разам не пахваліў ён мяне, мабыць, каб не ўздумалася мне перастаць на здзейсненым.

— Не пакідаць распачатай працы, — адказаў. — Не зневажаць цяжкімі пачаткамі!

Гультаём я не быў ніколі. Незадоўга бомба мая атрымала сілу замяніць у купку попелу мільярд людзей. На гэты раз фабрыкант паціснуў мне руку.

— Ну, ну... Гэта ўжо нешта ёсць. Вы маеце перад сабою будучыню, малады чалавек, — сказаў ён.

Ашаломлены подзвігам і пахвалай я закасаў рукавы і яшчэ з большай стараннасцю ўзяўся за працу. Прайшло некалькі дзён і я задыханы ды спацелы ўварваўся ў кабінет фабрыканта.

— Паўтара мільярда! — закрычаў я, прычыніўшы дзверы.

Фабрыкант замурлыкаў ад задавальнення.

— Вось, што значыць пастаянна імкнуцца да ідэала, — павучыў ён мяне па-бацькоўску. — Няма такой дасканаласці, якой чалавечы розум не змог бы палепшыць!

Пад уплывам гэтых слоў мяне апанавала гарачка палепшвання. Маючы гатовую бомбу на два мільярды людзей, я вярнуўся ад дзвярэй фабрыкантавага кабінета і дадаў яшчэ паўмільярда. Нейкі ўнутраны голас падказаў мне, што я набліжаюся да ідэалу.

Фабрыкант аружжа не мог далей утаіць сваёй радасці, якая аж распірала яго.

— Два і паўмільярда!.. Два і паўмільярда!.. паўтараў ён, танцуючы па кабінеце.

Нацешыўшыся дасягнутым, ён падумаў хвілінку і запытаў:

— А колькі ёсць усіх людзей на свеце.

— Два і паўмільярда, — адказаў я.

Фабрыкант насупіўся.

— Гэта значыць, што і я знаходжуся ў гэтым ліку?

— Ну.. мабыць так, — адказаў я, прадчуваючы нешта недобрае.

Фабрыкант хвіліну быццам сабіраў сілы, а пасля закрычаў прарэзліва:

— Да д... з такой бомбай! — і выкінуў мяне за дзверы.

— Цяжка дагадзіць чалавеку, — думаў я, вяртаючыся дахаты. Яшчэ буду мецъ судовую справу за тое, што хацеў звясці са свету фабрыканта аружжа.

**Пераклаў В. Бондар.**







На паляванні.




У дапамогу нясмелым.




Калі далёка за поўнач.




### ДВАРАНІН

У хаце вячэралі. Нехта пастукаў у акно.

— Хто там? — спытаў гаспадар.

— Я дваранін, хачу пераначаваць, — пачуўся голас з панадворка.

— Як дваранін, то спі на двары, — адказаў гаспадар.

**Шура Галабурда**
Альхоўка

### У ВОЙСКУ

— За тое, што не аддалі чэсці афіцэру назначаю вам 6 сутак гаўптвахты.

— Дык ён мой вялікі сябра!

— Нічога. Нават каб быў вашым родным братам, то шанаваць яго трэба.

**Ваня Лапінскі**
Тынкоўшчына

### У ШКОЛЕ

Настаўнік пытае вучня:
— Ці развіццё тэхнікі прыдасца ў школе?
— Гэта ўсё на нашу галаў, — адказаў вучань.

**Ларыса Якаўлюк**
Бельск

### ПА ШЛЮБЕ

— Як удаўся жонцы першы кухарскі паказ?
— Фатальна! Прыпаліла не толькі страву, але і кухарскую кніжку.

**Аляксандр Федарчук**
Падбеле

### У ШПІТАЛІ

Пацыент: — Сястра, я баюся, гэта першая аперацыя ў маім жыцці.
Сястра: — Не бойцеся, у доктара таксама першая.

**Якуб Сабешук**
Паграбы



— Вы, старшыня, фарсун! Ужо трэці касцюм у гэтым сезоне.

# РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

Ну, скажыце ж, людзі добрыя, чаму з такой цялячай радасцю жэніцца чалавек? І чаму на свеце так заведзена, што мы самі для сябе шукаем няшчасця?

На пачатку жывецца нам не горш ад другіх халасцякоў, а пасля дзяўчыну сабе прыглядзіш і ўсё жыццё дагары нагамі пераварочваецца.

Некаторыя людзі апраўдваюць свваю жаніцьбу, маўляў, асабістую свабоду прысвяціў для гаспадаркі. Без работніцы жа не абыдзешся на гаспадарцы.

Хлусня гэта, ды толькі. Дзеля таго, каб выпіць кубак піва не будзем жа купляць усяго півавармага завода. Работніцу можна наняць без жаніцьбы. Так таней будзе.

Дзяўчаты нашы хітрыя. Кожная толькі і стараецца падчапіць заззяваўшагася. Прыгажуням гэта лягчэй даводзіцца. Але і брыдкія не ўступаюць. Кожная непрыгожая мае ў запасе нешта асаблівае для прыманкі. Бывае, сустрэнеш дзяўчыну, твар у яе зусім авечы, затое грудзі... трымайце мяне, людзі добрыя! Другая, паглядзіш, зусім без фігуркі. Мацi - прырода так яе выстругала, што можна з дошкай спаборнічаць. Паглядзіш ёй у след і за сэрца схопішся. Паходка яе лебядзіная, плывучая. Ножкі спрытныя ды моцныя, ну, проста як у сарны. Неасцярожнага чалавека гэтыя ножкі давядуць проста да шлюбу, нават не згледзіш калі.

У Загсе на жаль, праца пастаўлена зусім па-стараму. Ніякай рацыяналізацыі тут не ўводзіцца пры афармленні шлюбу. Ад гэтага несправядлівасць вялікая. Чаму, напрыклад, ніякіх рэкламацый не прымаюць ад пацярпеўшых? Калі толькі падпісаўся чалавек — каціся каўбасой. А сярод нас ёсць людзі якія пасля некалькіх дзён катаргі, ахвотна разышліся б.

Па - мойму, прышоў час, каб справу рэарганізацыі ўстаноў, якія афармляюць шлюбы, паставіць рабром.

Шлюбы трэба ўвесці часовыя (напрыклад, на час палявых работ) і бестэрміновыя. Хто жадае ажаніцца ўсяго на тры месяцы, калі ласка. А калі мае ахвоту пайсці ў бестэрміновую катаргу, туды яму дарога.

Пры кожным Загсе неабходна арганізаваць аддзел тэхнічнага кантролю. Няхай у гэтым аддзеле кандыдатка на жонку пройдзе праз рукі спецыялістаў.

Апрача гэтага, варта пры Загсе адкрыць пункт замены. Калі прыходзіць кліент з прапановай замяніць сваю 40-гадовую рукадзельніцу, вышываючую крыжыкам, на 25-гадовую, якая ўмее шыць на швейнай машыне, трэба такому пайсці на руку. Можа ў гэтага чалавека машына стаць бяздзейна. Да гэтага нельга дапусціць, таму што згодна з пастановай міністэрства ў пяцігадовым плане ўсе механічныя агрэгаты павінны быць поўнасцю выкарыстаны.

Вось бачыце, людзі добрыя, за такой здавалася б дробязю, як замена жонкі, стаяць важныя справы нашай прамысловасці. Мяне хвалюе толькі адна справа: як хутка наступіць такая рэарганізацыя і ці паспею я замяніць сваю бабу.

*Дзядзька Лявон*